 



# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (445) | ГОД IX | 6 ВЕРАСНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР

## І ЗНОЎ ЗА ПАРТАМІ



Фота В. Рудчык

## НА ЗЯМЛІ ЎЛАСНАЙ

Нямецкі магнат барон фон Мантойфель не вельмі цікавіўся сваім амаль 500-гектаровым маёнткам у Дабрынеўцы, што за Заблудавам. Спасылаючыся на арэндатараў, заглядаў сюды ўсяго некалькі разоў у год — найчасцей летам на канікулы.

Фальварчным батракам ад гэтага лягчэй не было. Працаваць прыходзілася аднолькава цяжка, нават яшчэ цяжэй; трэба было зарабіць на гулянкі барона і на салодкае жыццё яго арэндатара. Плата пры тым заставалася нязменнай. Пастаянны здаровы рабочы, які і за касой, і за плугам, і з цэпам цэлы дзень без перапынку спраўляўся, мог зарабіць у барона фон Мантойфля не больш двух злотых грашыма і двух кілаграмаў жыта.

Многа гэта, ці мала? Старэйшыя людзі самі могуць асудзіць. Малодшым трэба ведаць, што за два злотых можна было, для прыкладу, купіць 2 кг цукру, або дваццаць булачак, такіх што цяпер па 50 гр. Цяпер, самі ведаеце, не знойдзеце чалавека, які захацеў бы ісці на цэлы дзень касіць, не атрымаўшы прынамсі сто злотых. А зараз за сто злотых купіць чалавек не два, але амаль 8 кілаграмаў цукру і не 20, а дзесяць раз больш булачак.

(Працяг на стар. 5)



Гэты скромны камень у Дабрынеўцы — знамянальны помнік. Ён прыпамінае ўсім, што 20 год таму назад беззямельныя сяляне атрымалі тут упершыню зямлю ад сваёй народнай дзяржавы.

## МІЛЬЯНЕРЫ

Жыхары вёскі на кожным кроку сустракаюцца з дзейнасцю гмінных кааператываў сялянскай самадапамогі. Цяпер проста нельга ўявіць сабе нашай вёскі без ГС-аў. Як старыя грушы ў палявую мяжу глыбока ўрасліся яны ў жыццё селяніна. Іх корні сягаюць першых пасляваенных гадоў. Тады гмінныя кааператывы сялянскай самадапамогі з'ўляліся арганізацыяй не толькі гандлёвага характару. На першы план высоўваўся палітычны змест іх дзейнасці. Крама ГС-у бараніла селяніна перад спекулянтам і перад прыватным гандляром, які сялянскай крыўдай да вайны набіваў сабе кішэні. Таму ўсюды, дзе толькі маглі, банды нішчылі і абкрадалі вясковыя крамы пад шыльдай Саюза сялянскай самадапамогі.

Цяпер на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства існуе каля 2,5 тысяч вясковых крамаў, а членскія ўступныя ўзносы далёка перасягнулі 20 мільёнаў злотых. Ваяводскі саюз гмінных спулдзельняў сялянскай самадапамогі — багацей, якіх нямнога на Беласточчыне. Грошы ў яго лічацца на дзесяткі мільёнаў. Баланс 1963 года, для прыкладу, замкнуўся ў яго сумай у звыш 200 мільёнаў злотых.

(Працяг на стар. 4)

## ПРА ЦЯЛУШКІ І ПРА ГІСТОРЫЮ

Гісторыя, вядома, якая яна: заўсёды ідзе наперад, гісторыя, кажуць, не паўтараецца, а законы гісторыі няўмольныя.

А Цялушкі — невялікая вёска над ракою Нарваю. Жывуць цялушэцкія сяляне наогул спакойна, аруць пясчаны грунт і не маюць нават часу думаць аб гісторыі і яе прысудах.

Сёння аднак нядзеля, людзі павыходзілі на вуліцу, можна прысесці на лаўцы ля плоту і пагутарыць з кім-небудзь аб чым-небудзь.

— Паглядзі, што дзеецца, — сказаў да мяне цялушэцкі дзядзька (гэты, што на здымку), калі я прысеў ля яго. Па вуліцы з рохатам праімчаліся адзін за другім тры матацыклы. — Пабач, што дзеецца, — паўтарыў дзядзька, — ганяюцца, што па вуліцы страшна прайсціся. А пяцьдзесят гадоў таму назад у Цялушках адзін толькі веласіпед быў. Мой брат меў.

(Працяг на стар. 4)

## ЦІШЭЙ ЕДЗЕШ — ДАЛЕЙ БУДЗЕШ

Вядомым было толькі, што ён прыедзе гайнаўскім поездам, у 15 гадз. Яго выгляду я не ведаў. У ценю прыдарожнага дрэва хвіліны здаюцца вечнасцю... Насупраць, у вітрыне крамы беляціць халат прадаўшчыцы Любы, якая памагае мне знайсці яго, Уладзіміра Патэюка, прэзеса сельскагаспадарчага гуртка ў Арэшкаве. Паглядае на прахожых — суседзяў. Яшчэ мінута, другая...

Ёсць, гэта ён: да мяне падыходзіць мужчына сярэдніх год, з энергічным тварам. Размашыста вітаемся, знаёмімся.

— Ага, вы з «Нівы»...

Ул. Патэюк адразу, без лішніх уступаў, пачынае дзелавую размову:

— Вось, у Гайнаўцы ў павятовым «кулку» не хацелі прадаць Арэшкаву другой малацілкі; пыталі, ці выпрацуем на ёй 200 гадзін... Зрэшты, глупства, папыталі - папыталі і далі — прадалі. Але як, браток, трактара выбаяваць!? Бачыце, у нас палосак няма даўно. зямля скамасаваная, эх, патрэбен жа нам такі трактарок да зарэзу... пакуль што няма іх...

(Працяг на стар. 5)




**В. Сапоцька: ПРАЦА РАСПАЧАТА і ШТО ДАЛЕЙ?**

**А. Харкевіч: АДЫЙШЛІ ТЫЯ ГАДЫ.**

**Э. Радзевіч: ВЯЛІКІ КОЗЫР.**

**С. Яновіч: ЛАСІНКУ РАТУЕ ЧАС.**



Дзядзька з Цялушак, які расказаў мне пра цялушэцкую старыну. фота аўтара

 

